# КРЫВІНКА

СНЕЖАНЬ
№ 18 (172)
2015 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




**“Крывінка” віншуе чытачоў з Новым годам і жадае шчаслівага жыцця!**

МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## НАДЗВЫЧАЙНАЕ ЗДАРЭННЕ

**Увесь Бешанковіцкі раён толькі і гаворыць аб надзвычайным здарэнні на адной з раённых фермаў. Як звычайна ў такіх выпадках, афіцыйныя ўлады маўчаць.**

Па інфармацыі, атрыманай “Крывінкай” са шматлікіх крыніц, у суботу 19-га снежня ў вёсцы Навасёлкі, на ферме, якая належыць сельгаспрадпрыемству Бачэйкава (цяперашняму "Бешанковічы-Аграсервіс"), загінула 44 галавы цялят. Яны былі забітыя разрадам электрычнага току.

Чаму змагло здарыцца падобнае, што зрабілі з забітымі цялятамі і г.д. – невядома. Кажуць, нібыта іх вазілі на бешанковіцкую бойню. Нібыта частку яго сплавілі камерсантам. Куды тое мяса пойдзе, на якія мэты, хто яго будзе есці?

Пытанняў шмат. Няма толькі адказаў. Хацелася б дастукацца да мясцовай улады, якая мусіць адвергнуць ці пацвердзіць інфармацыю. Зразумела, што хваліцца тут нечым. Але ж трэба набрацца мужнасці і давесці да жыхароў раёна праўду, якой бы горкай яна ні была. Трэба памятаць, што любая вялікая хлусня пачынаецца з хлусні маленькай. Або з замоўчвання той інфармацыі, якая паказвае ўладу ў нявыгадным для яе святле.

Пакуль што мы маем уладу, якая ў прапагандысцкім плане амаль што не адрозніваецца ад савецкай, што хавала ад нас усе негатыўныя моманты нашага жыцця. Мы памятаем, што тая ўлада ад малой хлусні дакацілася да Чарнобыля. Тады проста ў вочы людзям хлусілі, нібыта іхняму здароўю нічога не пагражае. Няўжо гэты вопыт мінуў для чыноўнікаў дарэмна?

**Г.Станкевіч**

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

## КОЛЬКІ МОЖНА ЭКАНОМІЦЬ НА ЛЮДЗЯХ?

**Бешанковіцкая лазня – установа стратная. Але ж камунальныя ўстановы не бываюць занадта прыбытковымі. Вывесці лазню на самаакупнасць цяжка пры любым кошце на паслугі. Бо пры падвышэнні цэнаў адразу скароціцца кантынгент тых, хто карыстаецца гэтай паслугай.**

Сёння кошт білета ў бешанковіцкую лазню складае ўжо 35 000 беларускіх рублёў. Для параўнання, у Віцебску ён каштуе 30 000, да таго ж там значна больш наведнікаў і, значыць, больш шансаў на самаакупнасць установы.

Але ж пры чым тут самаакупнасць, калі людзі пачынаюць на лазні эканоміць. Замест таго, каб мыцца кожны тыдзень, ходзяць раз на два тыдні, а то і раз на месяц.

Яшчэ звернем увагу на якасць паслугаў, якія прапануе жыхарам нашага райцэнтра лазня. У бешанковіцкай лазні больш няма душа. Раней тут былі дзве мыйных залы, у адной з іх стаялі душавыя кабіны. Зараз трубы згнілі, душы не працуюць. Нядаўна гэту залу зачынілі.

Засталася адна вялікая мыйная зала з агульнай плошчай прыкладна 60 квадратных метраў. Раней яна асвятлялася шасцю электрычнымі лямпачкамі, потым пяццю, потым чатырма. У мінулую суботу (19-га снежня) на ўсю залу гарэла толькі дзве лямпачкі, прычым на адной сцяне.

У Віцебску, дзе лазня каштуе танней, пры яе наведванні чалавек атрымоўвае бясплатна аднаразавы ручнік, можа наведаць маленькі басейн, заглянуць пры жаданні ў цырульню і буфет. У нашым райцэнтры кошт паслугаў даражэйшы, але пра падобныя паслугі прыходзіцца толькі марыць. Хутка ўжо, мусіць, мыцца прыйдзецца ў абсалютнай цемры.

На чым яшчэ зэканомяць у Бешанковічах?

**Г.Станкевіч**

### ХРЫЗАНТЭМЫ

*Цёмна. Халодна. Няўтульна.*
*Маркоціцца снежань.*
*З неба глядзіць на зямлю*
*мёртвым поглядам ветах.*
*Жоўтых куплю хрызантэм,*
*сонца летняга ўсмешак,*
*снежанькі дзень, што прачнецца,*
*каб імі расквеціць.*

*Хочацца мне,*
*каб ён казкаю стаў незвычайнай,*
*коткай ласкавай*
*дзе жмурыцца цёплае лета,*
*дзе ў сінім небе*
*кружляюць бялюткія чайкі,*
*дзе сярод дня*
*распускаецца папараць-кветка.*

*Ўсе забяру хрызантэмы я –*
*сонейкаў безліч,*
*жоўтае полымя кіну*
*да ног тваіх долу,*
*і сярод снежаньскай шэрасці,*
*што з неба збегла,*
*сонцам жывым загарыцца*
*агонь невядомы.*

*Кажуць, што*
*жоўтыя кветкі дарыцьсь –*
*да расстання,*
*толькі я ў тыя прыкметы*
*ніколькі не веру.*
*Ты мне ўсміхніся праз ноч*
*гэтым снежаньскім раннем*
*сонечным промнем ласкавым,*
*з цяплом і даверам.*

**Г.Станкевіч**



З ЗАЛЫ СУДА

## АСУДЖАНАЯ НА ПЯЦЬ ГАДОЎ З КАНФІСКАЦЫЯЙ МАЁМАСЦІ

**Непрыемным быў дзень 16-га лістапада 2015 г. для маладой жанчыны Зямко С.В., а таксама адміністрацыі філіяла ААТ «Аўтатранспартнае прадпрыемства №21» ААТ «Віцебскаблаўтатранс».**

У гэты дзень у актавай зале аўтапарка сабраўся працоўны калектыў прадпрыемства, дзе ў выязным паседжанні суда Бешанковіцкага раёна разглядалася крымінальная справа па абвінавачванні іх былой калегі Зямко С.В. у крадзяжу шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі ў буйным памеры.

Абвінавачаная віну ў аб'ёме прад'яўленага ёй абвінавачвання прызнала ў поўным аб'ёме і паказала суду, што яна ў перыяд з 17 01.2012 па 29.12. 2014, працуючы на пасадзе аператара ЭВМ, а затым бухгалтара філяла ААТ «Аўтатранспартнае прадпрыемства №21» ААТ «Віцебскаблаўтатранс», маючы доступ да разліковага рахунку прадпрыемства з дапамогай электроннай сістэмы «Кліент-банк» з мэтай крадзяжу грашовых сродкаў складала аплатныя даручэнні, забяспечвала іх электронным подпісам і перадавала ў банк для пералічэння грашовых сродкаў на рахунак, адкрыты на яе імя ў банку ААТ «Хоум Крэдыт Банк».

Таксама пералічвала грашовыя сродкі на разліковыя рахункі Віцебскага ўнівермага, ЗТАА «БелЕўрасетка», дзе затым па падробленай даверанасці атрымлівала матэрыяльныя каштоўнасці, якія прадавала праз інтэрнэт.

Усяго Зямко С.В. выкрала ў аўтапарка 93.161.479 рублёў, што на момант здзяйснення злачынства з'яўлялася крадзяжом ў буйным памеры, а затым распарадзілася выкрадзенымі грашовымі сродкамі па сваім меркаванні.

У судовым пасяджэнні былі дапытаны службовыя асобы аўтапарка, паказанні якіх пакладзены ў аснову абвінаваўчага прысуду, якім Зямко С.В. асуджаная па ч.3 арт. 210 КК Рэспублікі Беларусь да 5 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і з пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з улікам і распараджэннем матэрыяльнымі каштоўнасцямі і грашовымі сродкамі тэрмінам на 3 гады. На падставе ч.2 арт. 77 КК Рэспублікі Беларусь выкананне пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі адтэрмінавана на 3 гады.

Зямко С.В. здзейсніла цяжкае злачынства, за якое прадугледжана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 3 да 10 гадоў. Пры прызначэнні пакарання суд улічыў чыстасардэчнае прызнанне Зямко С.В. у злачынстве, поўнае пакрыццё ў перыяд следства нанесенай прадпрыемству шкоды, наяўнасць на ўтрыманні непаўнагадовых дзяцей. Зямко С.В. з'ўляецца маці-адзіночкай, знаходзіцца ў адпачынку па догляду за дзіцём да 3 гадоў.

27 лістапада 2015 года прысуд суда ўступіў у законную сілу. З гэтага часу Зямко С.В. будзе мець судзімасць, цягам 3 гадоў будзе выконваць ускладзеныя на яе судом абавязкі. У выпадку парушэння ўмоў адбывання пакарання, грамадскага парадку адтэрміноўка выканання прысуду можа быць адменена судом і асуджаная будзе накіравана ў месцы пазбаўлення волі.

Вось так Зямко С.В. з разраду сумленных людзей перайшла ў разрад здачынцаў, і гэтаму спрыяла неналежнае выкананне сваіх абавязкаў службовымі асобамі прадпрыемства. Факт крадзяжу грашовых сродкаў быў устаноўлены толькі пасля звальнення Зямко С.В. з прадпрыемства, бо прыбраць сляды злачынства яна не змагла.

Памочнік пракурора Бешанковіцкага раёна, малодшы саветнік юстыцыі Лешанок Э.І.

**beshenkovichi.vitebsk-region.gov.by/ru/prokuror**

ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

# 2016 ГОД СТАНЕ САМЫМ ГАРАЧЫМ

**Навукоўцы чакаюць, што ў 2016 годзе будзе яшчэ цяплей, чым у рэкордна гарачым 2015-м. Пра гэта гаворыцца ў штогадовым сусветным прагнозе, апублікаваным Галоўнай метэаралагічнай службай Вялікабрытаніі.**

Згодна з прагнозам, сярэдняя тэмпература ў 2016 годзе будзе знаходзіцца ў прамежку паміж 14,72 і 14,96 °С. Найбольш верагоднае значэнне - 14,83 °С. Верагоднасць яго выканання ацэньваецца ў 95%.

Гэта на 0,84 °С вышэй сярэдняй тэмпературы ў 1961 - 1990 гадах і на 0,53 °С вышэй значэння за 1981 - 2010 гады. Калі прагноз апынецца дакладным, тэмпература на Зямлі перавысіць даіндустрыяльны ўзровень на 1,14 °С.

Дадзеныя за студзень-кастрычнік 2015 года паказваюць, што сусветная сярэдняя тэмпература стане самай высокай за апошняе стагоддзе. Калі прагноз на 2016 споўніцца, наступны год паб'е гэты рэкорд.

«Вельмі верагодна, што 2015 апынецца самым гарачым за ўсю гісторыю назіранняў. Наступны год, верагодна, будзе такім жа гарачым, калі не гарачэй», - сказаў Крыс Фоланд (Chris Folland) навуковы супрацоўнік Метеобюро.

Прагноз зроблены на аснове статыстычных дадзеных і камп'ютэрнага мадэлявання. Ён улічвае ключавыя фактары сусветнага клімату, але ён не ўключае выпадковыя падзеі (напрыклад, вывяржэння вулканаў).

Сярод прычын пацяплення навукоўцы называюць тэхнагенныя эфекты і змены тэмпературнай анамаліі Эль-Ніньё. Раней кліматолагі ўжо папярэджвалі, што калі сярэдняя тэмпература на Зямлі перавысіць даіндустрыяльны ўзровень на два градусы, гэта можа апынуцца фатальным.

**TUT.BY**

НАША ЖЫЦЦЁ

# БАЗАВАЯ ВЫРАСЦЕ

**З 1 студзеня базавая вырасце да 210 тысяч рублёў. Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў № 1059 ад 18 снежня 2015 года. Пра гэта паведамляе прэс-служба беларускага ўрада.**

У папярэдні раз базавая велічыня ў Беларусі павышалася з 1 студзеня 2015 года на 20% са 150 тысяч да 180 тысяч рублёў.

З ростам базавай павялічваюцца не толькі выплаты, але і штрафы. Напрыклад, максімальнае пакаранне за перавышэнне хуткасці будзе складаць 3.150.000 рублёў. А безбілетнікам зараз прыйдзецца раскашэліцца на 105 тысяч рублёў.

Базавая велічыня - гэта эканамічны паказчык, які вызначае абстрактную каштоўнасць пакупніцкай здольнасці грошай, не звязаную з ацэнкай канкрэтных матэрыяльных або нематэрыяльных дабротаў.

З павелічэннем базавай велічыні вырастуць:

- Адначасовыя дапамогі педагагічным, медыцынскім і фармацэўтычным работнікам, работнікам культуры і мастацтва, спецыялістам сельскай гаспадаркі і ЖКГ, работнікам сістэмы спажывецкай кааперацыі пры прыбыцці на працу ў раёны, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджванню ў выніку аварыі на ЧАЭС;
- Грашовая дапамога на аздараўленне асобным катэгорыям грамадзян;
- Штомесячныя грашовыя выплаты грамадзянам, якія маюць ганаровае званне "народны";
- Прэміі і стыпендыі прэзідэнта Беларусі;
- Дапамогі, стыпендыі і матэрыяльная дапамога беспрацоўным;
- Пакрыццё расходаў іншагародні студэнтам па найму жылля;
- Мінімальныя стаўкі аўтарскага ўзнагароджання;
- Аднаразовае ўзнагароджанне работнікам арганізацый, якія спускаюцца пад ваду для выканання службовых абавязкаў;
- Іншыя выплаты.

**TUT.BY**

НАША ЖЫЦЦЁ

# СТРАЛЯЛІ ПА ЛЮДЗЯХ

**У апошні час у Віцебскай вобласці пачасціліся выпадкі выкарыстання пнеўматычнай зброі. Супрацоўнікаў міліцыі непакояць беспрычынная стральба па аўтатранспарце, дарожных знаках, вокнах жылых дамоў і, што самае страшнае – па людзях. Так, нядаўна ў Віцебску пахуліганіў малады чалавек: ён выстраліў з пнеўматычнай зброі ў выпадковага прахожага. У выніку мужчына атрымаў сур'ёзнае раненне, а супраць стралка была ўзбуджана крымінальная справа.**

Як паказвае жыццё, пнеўматыка можа быць сур'ёзнай пагрозай здароўю чалавека. Куля пнеўматычнай зброі не толькі здольная прабіць скуру, але і пранікнуць у цела на некалькі сантыметраў, пашкодзіць унутраныя органы. Нават зброя, падобная да пнеўматычнай, з якой страляюць стальнымі шарыкамі, лёгка разбівае зашклёныя вокны транспартных сродкаў і можа параніць чалавека. Вялікую небяспеку пнеўматыка прадстаўляе для дзяцей, бо можа прычыніць сур'ёзныя цялесныя пашкоджанні.

Аналізуючы злачынствы, звязаныя з выкарыстаннем пнеўматыкі, можна гаварыць, што асноўную масу складаюць хуліганствы і пагрозы забойствам. Напрыклад, у Лёзненскі РАУС з заявай звярнуўся мужчына: ягоны знаёмы беспрычынна выстраліў яму ў твар з пнеўматычнага пісталета. Супраць стралка была ўзбуджана крымінальная справа.

Не ўдалося пазбегнуць адказнасці і жыхару Бешанковіцкага раёна. Малады чалавек некалькі разоў стрэліў у маладую жанчыну, за што апынуўся на лаве падсудных. Большасць пнеўматычных пісталетаў капіруюць знешні выгляд рэальна існуючых мадэляў баявой зброі. Здараецца, што такім падабенствам карыстаюцца злачынцы. Так, узброіўшыся пнеўматычным пісталетам, двое непрацуючых віцяблян абрабавалі студэнта аднаго з вузаў абласнога цэнтра. Іх здабычай стаў дарагі мабільны тэлефон. Але хутка злачынцы былі затрыманы міліцыянерамі.

Асноўнымі пакупнікамі пнеўматычнай зброі з'яўляюцца маладыя людзі. Любы падлетак, які страляў у віртуальным свеце, хоча патрымаць зброю ў руках. Прычым, іншы раз прадаўцы прапануюць узмоцненыя спружыны, падоўжаныя стваллы, пры дапамозе якіх можна павялічыць магутнасць пнеўматыкі. Але за гэта пагражае крымінальная адказнасць (да двух гадоў пазбаўлення волі). За захоўванне і нашэнне пнеўматычнай зброі прадугледжана адміністрацыйная адказнасць. А калі мішэнню становяцца людзі і маёмасць, то пагражае крымінальная адказнасць.

**"Герой працы" Шумілінскі раён**

ЗДАРЭННІ

# КРЫМІНАЛЬНАЯ СПРАВА

10-га снежня ў 17 гадзін 10 хвілін у Бешанковіцкі РАУС звярнуўся непрацуючы 1988 года нараджэння. Ён паведаміў, што ў перыяд з 17 гадзін 9-га снежня да 17 гадзін 10-га снежня неўсталяваны злачынец, узламаўшы дзвярныя завалы, пракраўся ў яго дачны дом і здзейсніў крадзеж зварачнага апарата, шліфавальнай машынкі і набору інструментаў.

Нанесеная шкода склала 11.300.000. рублёў. РАСКА ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 2 арт. 205 КК.

**З сайта МУС**

# ЗГАРЭЛА ХАТА

21-га снежня ў 22-50 паступіла паведамленне аб пажары ў доме ў в. Камоскі Бешанковіцкага раёна.

У выніку пажару ў жылым доме, які належыць грамадзяніну 1954 г.н., пашкоджаны дах, столевае перакрыцце, сцены і маёмасць. Прычына пажару высвятляецца.

**З сайта МНС**

# У АСТРОЎНЕ ЗНАЙШЛІ ЁМКАСЦІ З РТУЦЦЮ

**Выратавальнікам аб падазронай знаходцы паведамілі раніцай 25-га лістапада. Прыбыўшы на месца, работнікі МНС знайшлі непадалёк ад адміністрацыйнага будынка сельгаспрадпрыемства ў смецці некалькі герметычна запакаваны пластыкавых ёмістасцяў з надпісам «Фіксін. Ласьён для укладкі валасоў», унутры якіх апынулася ртуць.**

На шчасце, разліву небяспечнага вадкага металу ў Астроўна не адбылося, таму пагрозы для жыцця і здароўя людзей не ўзнікла.

Выратавальнікам даволі часта даводзіцца выязджаць для правядзення дэмеркурызацыйных работ. Звычайна небяспечныя сітуацыі ўзнікаюць, калі разбіваюцца бытавыя тэрмометры. Усяго некалькі кропель вадкага металу здольныя стварыць у памяшканні канцэнтрацыю атрутных пароў, якая ў некалькі разоў перавышае гранічна дапушчальную норму.

- Першымі прыкметамі атручвання ртутнымі выпарэннямі з'яўляецца металічны прысмак у роце, медна-чырвоная афарбоўка слізістай рота і глоткі, болі ў жываце і падвышэнне тэмпературы, - патлумачыла прэс-сакратар абласнога УМНС Марына Фандо. - Пры з'яўленні такіх сімптомаў неабходна неадкладна пакінуць небяспечную зону, выпіць вады з актываваным вуглём або літр малака, затым ўзбіць з вадой яечны бялок і звярнуцца да ўрача.

Варта ведаць, дадала Марына Анатольеўна, што ртуць ёсць не толькі ў тэрмометрах, але і ў танометрах, і ў лямпах дзённага святла. Таму ў звароце з імі неабходна быць вельмі асцярожнымі. І, вядома, ні ў якім разе нельга вылiваць высокатаксічных метал у каналізацыю ці выкідваць у смеццеправод.

Як жа правільна дзейнічаць, калі, напрыклад, у вас разбіўся ртутны тэрмометр?

У першую чаргу неабходна выдаліць усіх з пакоя, зачыніць дзверы і расхінуць акно для інтэнсіўнага ветрання. Затым зрабіць рэспіратар з некалькіх слаёў марлі, а рукі абараніць гумовымі пальчаткамі. Ні ў якім разе не выкарыстоўвайце для збору ртуці пыласосы, інакш вы рызыкуеце развеяць па ўсёй кватэры атрутныя часціцы. Буйныя шарыкі ратавальнікі рэкамендуюць змятаць вільготным пэндзлем або збіраць гумавай грушай, дробныя - тампонам з размочаннай паперы або ваты.

Змясціце аскепкі тэрмометра і вадкі метал у шкляны слоік, а затым звярніцеся да спецыялістаў ЖКГ ці МНС, якія падкажуць, што рабіць далей. Пасля механічнай уборкі памяшкання правядзіце хімічную: нанесены на паверхню раствор марганцоўкі альбо хлорутрымліваючы адбельвальнік, дайце высахнуць і прамыйце ўсе канцэнтраваным мыльным растворам. Падручныя сродкі, якія выкарыстоўваліся падчас уборкі, трэба таксама скласці ў шкляны слоік, заліць вадой і шчыльна зачыніць вечкам.

**Віцебскія весці**

## АБ'ЯВА

- *Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*
- *Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.*
- *Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# БАНКЕТНАЯ ПРАМОВА СЬВЯТЛАНЫ АЛЕКСІЕВІЧ

**10 снежня Сьвятлана Алексіевіч атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры з рук швэдскага караля Карла Густава XVI. На банкеце ў Блакітнай залі Стакгольмскай ратушы першая беларуская нобэлеўская ляўрэатка згадала Адамовіча і Быкава і расказала сьвету пра Беларусь.**

"Я дзякую Швэдскай акадэміі за высокую ўзнагароду, якую ня маю права сабе прысвоіць, я разумею яе як паклон многім пакаленьням савецкіх людзей, якія яшчэ нядаўна жылі разам у велізарнай краіне СССР — марксісцкай лябараторыі сьветлай будучыні. Як паклон іх пакутам і іх болю. Яны сыходзілі ў нябыт у сталінскіх лягерах, на шахтах Магадану і Варкуты, атрымлівалі кулю ў патыліцу ў катавальнях НКВД, гінулі на франтах Другой сусьветнай вайны і іншых войнаў, якія вяла імпэрыя. Вялікая ідэя бязьлітасна пажырала сваіх дзяцей. Ідэям не бывае балюча. Шкада людзей.

У перабудову мы марылі пра свабоду, а апынуліся ў зусім іншым пункце гісторыі. На постсавецкай прасторы замест свабоды расквітнеў аўтататалітарызм розных масьцяў — расейскі, беларускі, казахскі... Павольна і няўпэўнена выбіраемся мы з пад абломкаў «чырвонай» імпэрыі. Адна з гераіняў маёй кнігі «Час second-hand», у якой уся сям'я была высланая ў Сібір і там загінула, са сьлязамі на вачах сьпявала, калі мы сядзелі ў яе на кухні:

*Утро красит нежным светом*
*Стены древнего Кремля,*
*Просыпается с рассветом*
*Вся советская земля...*
*Кипучая,*
*Могучая*
*Никем не победимая*
*Страна моя,*
*Москва моя,*
*Ты самая любимая...*

Мінуўшчына не выпускала яе з сваіх драпежных абдымкаў. Яе навучылі верыць, у ёй усё яшчэ жыла тая дзяўчынка, у якой Сталін калісьці забраў усё, а яна ўсё роўна верыла. У што?

Я хачу расказаць пра маю краіну — Беларусь. У Менску ў аэрапорце, калі я ляцела ў Варшаву, да мяне падышлі дзьве маладыя дзяўчыны, яны плакалі: «Дзякуй вам! Разумееце, мы цяпер ёсьць! Цяпер усе ведаюць, дзе Беларусь!» Гэтую падзяку я перадаю ўсім вам. Пасьля жнівеньскага путчу 1991 году, калі Беларусь атрымала незалежнасьць, ужо вырасла некалькі пакаленьняў. У кожнага зь іх была свая рэвалюцыя, яны выходзілі на Плошчу, яны хацелі жыць у вольнай краіне, іх зьбівалі, адпраўлялі ў турмы, выганялі з інстытутаў, звальнялі з працы. Наша рэвалюцыя не перамагла, але героі рэвалюцыі ў нас ёсьць.

Свабода — гэта ня хуткае сьвята, як мы марылі. Гэта — шлях. Доўгі шлях. Цяпер мы гэта ведаем.

Мы ўсе жывем у агульным сьвеце. Ён называецца — Зямля. У гэтым нашым сьвеце зрабілася няўтульна. Уключаеш тэлевізар, і там, захлынаючыся ад захапленьня, дыктар расказвае пра новыя вайсковыя самалёты, караблі... На расейскай, ангельскай і іншых мовах. Зноў наступіла эпоха барбарства. Эпоха сілы. Дэмакратыя адступае.

Узгадваюцца 90-я гады... Тады ўсім нам здавалася — і вам, і нам — што мы ўступілі ў бясьпечны сьвет. Я памятаю дыялёгі Гарбачова з Далай-ламам пра будучыню, пра канец гісторыі... Сёньня ўсё гэта здаецца прыгожай казкай.

Цяпер мы сьведкі новай схваткі дабра і зла. Сьведкі і ўдзельнікі.

Што можа мастацтва? Мэта мастацтва — назапашваць чалавека ў чалавеку. Але калі я была на вайне ў Афганістане і цяпер, калі размаўляла ва Украіне з уцекачамі з Данбасу, я чула, як хутка зьлятае з чалавека культура і выпаўзае пачвара. Выкрываецца зьвер... Але я пішу... працягваю пісаць... Пішу, як вучылі мяне мае настаўнікі, беларускія пісьменьнікі Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў, якіх у гэты дзень я хацела б прыгадаць з удзячнасьцю. Як вучыла мяне мая ўкраінская бабуля, якая ў дзяцінстве чытала мне «Кабзара» Тараса Шаўчэнкі напамяць. Пішу, нашто? Мяне называюць пісьменьнікам катастрофаў, гэта няпраўда, я ўвесь час шукаю словы любові. Нянавісьць нас не ўратуе. Нас уратуе толькі любоў. Я спадзяюся...

На разьвітаньне я хацела б, каб у гэтай цудоўнай залі прагучала беларускае слова, мова майго народу:

У адной беларускай вёсачцы старая жанчына праводзіла мяне са словамі: *"Хутка мы разыдземся з табой у розныя бакі. Дзякуй табе, што ты слухала мяне і панясеш маю больку людзям. Прашу цябе, калі пойдзеш, агляніся на маю хатку. Агляніся не адзін, а два разы. Другі раз чалавек аглядваецца не па чужыньцы, а ўжо з сэрцам..."*

Я хачу падзякаваць вам за ваша сэрца, за тое, што вы пачулі наш боль."

**"Радыё Свабода"**




БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# ВОПРОС РОССИЙСКОЙ АВИАБАЗЫ ОТОДВИНУТ

**В те минуты, когда в Кремле напряженно переговаривались президенты Беларуси и России, в Национальном аэропорту под Минском встречали морем цветов писательницу Светлану Алексиевич, вернувшуюся из Стокгольма с Нобелевской премией.**

Но если та возвратилась в родные пенаты с триумфом, то Александр Лукашенко похвалиться плодами закончившегося 15 декабря московского визита вряд ли может.

Были времена, когда он прилетал из белокаменной в приподнятом настроении, с договоренностями о кредитах и дешевых энергоносителях.

Ныне же в актив, и то весьма условно, можно записать разве что одно — вопрос о размещении в Беларуси российской авиабазы отодвинут.

**Пришлось подписать заявление «ниочем»**

По итогам переговоров в Кремле президенты подписали совместное заявление, суть которого на сетевом сленге можно выразить как «ниочем». Например, «Беларусь и Россия договорились скоординировать усилия в Союзном государстве и Евразийском экономическом союзе по созданию дополнительных условий для увеличения объемов взаимной торговли и повышения деловой активности реального сектора экономик двух государств».

Гениально! Раньше, надо думать, не координировали, а теперь наконец-то договорились координировать.

«Судя по тому, что в итоговых публичных заявлениях не прозвучали слова «авиабаза», «нефть», «кредит», стороны по большому счету не договорились по ключевым вопросам», — заявил в комментарии для Nav-iny.by минский аналитик-международник Андрей Федоров.

По его мнению, нет никаких гарантий, что через неделю спорные вопросы будут развязаны. Более того, трудно прогнозировать, в каком направлении пойдет развитие отношений — в сторону шлифовки договоренностей или в сторону конфронтации, отметил собеседник.

Эксперт минского аналитического центра «Стратегия» Валерий Карбалевич, со своей стороны, предположил в комментарии для Nav-iny.by, что правительствам могли делегировать такие вопросы, как условия выдачи кредита Евразийского фонда стабилизации и развития (ЕФСР), цена и объем поставок нефти в Беларусь в будущем году, судьба вывозных пошлин на нефтепродукты (Минск хочет целиком оставлять их в республиканском бюджете).

В то же время, считает Карбалевич, «обмен кредита на авиабазу осуществить не удалось».

По его мнению, утверждение пресс-секретаря Путина Дмитрия Пескова, что тему авиабазы президенты не затрагивали, звучит смешно, поскольку перед переговорами близкие к российскому руководству источники заявляли, что этот вопрос будет обсуждаться.

«Вопрос авиабазы отодвинут, поскольку белорусская сторона ее размещения не хочет», — убежден Карбалевич.

**Украина, Сирия, Турция — у Минска свой интерес**

Явно не захотел Лукашенко и вербально поддержать Кремль в конфликте с Турцией. Путин был вынужден от себя обтекаемо заметить, что у Москвы и Минска близкие позиции по украинскому кризису и борьбе с терроризмом в Сирии.

Ну, то, что Минск против терроризма, ежу понятно. А вот Турцию Лукашенко, находясь несколько дней назад в Ашгабате, подчеркнуто назвал «дружественной нам» и в целом призвал «не нагнетать», идти на уступки и компромиссы (из контекста вытекало: обеим сторонам). Ранее он принял в Минске ближайшего союзника Анкары — президента Азербайджана Ильхама Алиева.

Поговаривают, что белорусский президент не прочь умножить лавры миротворца, заработанные на украинском кризисе, через предоставление площадки и для разруливания ближневосточной проблематики.

Этот номер вряд ли прокатит, однако факт то, что ссориться с турками, как и ранее с украинцами, белорусскому руководству (да и всему народу) абсолютно ни к чему. И с теми, и с теми у Минска хорошая торговля, взаимный экономический интерес, да и вообще — зачем? Беларусь — не империя, ей ни к чему доказывать крутизну через конфронтацию с другими странами, влезание в войны на чужих землях.

Между тем прокремлевские комментаторы возмущаются, что на белорусском топливе летают самолеты и ездят танки «киевской хунты». Так что слова Путина о близких позициях по Украине — скорее попытка сделать хорошую мину.

Продвигая экономический интерес Минска, Лукашенко сдержанно заметил: «Беларусь поддерживает и разделяет цели реализуемой в России программы импортозамещения, но эта программа ни в коем случае не должна ухудшать возможности и условия поставок белорусских товаров и услуг. Тем более что они закреплены как двусторонними соглашениями, так и нормами ЕАЭС».

Здесь смысловой акцент падает на ту часть фразы, которая идет после «но». Минск недоволен, что рынок восточной соседки сужается для белорусского экспорта. Причем Россия не особо оглядывается на интеграционные договоренности (справедливости ради отметим, что и для белорусского начальства они не священная корова).

**Авиабаза: клинч продолжится**

Таким образом, узел двусторонних противоречий президенты встречей 15 декабря не развязали.

У Москвы в руках сильные рычаги, чтобы продавливать авиабазу. Белорусское руководство подвесило проект бюджета на будущий год, видимо, не зная, как его наполнять, в частности потому, что мировые цены нефти упали ниже плинтуса предварительных расчетов. Так что получение кредита ЕФСР и энергетических субсидий — вопрос жизни и смерти «белорусской модели».

Однако фишка белорусско-российских отношений в том, что хвосту часто удается вертеть собакой. Во всяком случае, несомненно, что Лукашенко применит весь опыт такого рода, чтобы упираться против базы до последнего. А вопрос о ней может стать ребром уже на саммите ОДКБ 21 декабря.

Поражение же в этом вопросе станет ударом не только по имиджу, но и по статусу полновластного хозяина страны (база окажется неуправляемым чужеродным телом, потенциально — с носителями ядерных зарядов), и по только-только вышедшим на плюс отношениям с Евросоюзом и США. Причем те именно за отказ от авиабазы могут дать кредит МВФ в три миллиарда долларов.

Минск пытается удержать немыслимый геополитический шпагат.

**Александр Класковский**

ІНТЭРНЭТ ГАНДАЛЬ

# …ТАМ, ЗА ГРАНИЦЕЙ, В РАЗЫ ДЕШЕВЛЕ…

**Председатель Совета Республики Михаил Мясникович будет продолжать настаивать на введении налога на покупки белорусов в заграничных интернет-магазинах: «Оценочная стоимость посылок из-за рубежа намеренно занижается».**

По его словам, стоимость этих посылок намеренно занижается, сообщает БЕЛТА.

— Они оцениваются в 5, 10 долларов… Хотя на самом деле фактическая стоимость совершенно другая, поэтому бюджет недополучает НДС, пошлины, — обосновал свою позицию Михаил Мясникович и рассказал, что за полгода белорусы получили 4,4 миллиона посылок из-за границы. — Я не против того, чтобы покупали это, но идет просто подлог фактической стоимости. Это позволяет уходить от таможенных пошлин, платежей и так далее.

Впервые идею брать налог с посылок из заграничных интернет-магазинов Михаил Владимирович озвучил летом этого года. Позднее Нацбанк поручил коммерческим банкам рассмотреть техническую возможность взимания дополнительного сбора с физлиц на этапе оплаты товаров по карточке банкам. Финансовые учреждения уведомили регулятор о том, что не имеют такой технической возможности.

«Я считаю, что это неправильный подход. Буду на этом настаивать. Ведь, когда мы приходим в магазин, на кассе пробивают НДС, и программное обеспечение срабатывает. Каждый покупатель уплачивает налог. У нас есть регистрация на каждую посылку. При ее вручении вполне можно этот вопрос решить», — заключил Михаил Мясникович и привел в пример ЕЭК, которая сейчас как раз рассматривает варианты пошлины для таких посылок.

Как напоминает FINANCE.TUT.BY, один из вариантов предусматривает освобождение от таможенных платежей товары, которые дешевле 22 евро и весом ниже 1 килограмма. Посылки, которые попадают в диапазон 22–150 евро и 1–10 килограммов, потребуют уплаты налога в размере 15 евро. Согласно второму варианту, товары с таможенной стоимостью до 150 евро и весом не более 10 килограммов будут облагаться сбором в 10 евро. Если таможенная стоимость посылок превышает 150 евро, а вес — более 10 килограммов, тогда сбор составит 10 евро плюс 30% от таможенной стоимости, но не менее 4 евро за 1 кг веса.

– Михаил Мясникович – вообще очень «креативный» чиновник в деле изъятия денег у граждан, – летом, как только была озвучена новая идея, заявила «Салідарнасці» Татьяна Короткевич. – Он был одним из инициаторов декрета «о тунеядцах». Теперь еще придумал брать налог с товаров, которые граждане получают по почте из-за границы. Государство в условиях экономического кризиса и снижения уровня доходов людей в очередной раз не находит ничего лучшего, чем решать за счет граждан проблемы, которые Мясникович и прочие «экономисты» сами же и создали.




Реакция Байнета: «Уже не знают, где еще урвать из кармана населения»

Форумчане сразу же отреагировали на свежее заявление бывшего премьер-министра. Предлагаем избранное с открытой дискуссионной площадки talks.

«Скорее, это стоимость товаров у Мясниковича в стране намеренно завышается. Причем, самым наглым образом».

«Не пробовали качественную и дешевую продукцию производить?».

«Мясникович никак не может понять, что там, за границей, в РАЗЫ ДЕШЕВЛЕ».

«Господам мало на коттеджи и немецкие машины? Уже не знают, где еще урвать из кармана населения».

«Грустно, что они до самого конца не поймут, что никакие новые налоги их не спасут».

**http://gazetaby.com**

КАРУПЦЫЯ

# МАСАВЫЯ АРЫШТЫ ЧЫНОЎНІКАЎ

**Арыштаваныя былыя міністар гандлю Валянцін Чаканаў і два намесьнікі міністра – транспарту Васіль Півавар і сельскай гаспадаркі Яўген Рагачоў.**

На сайце kp.by зьявілася паведамленьне пра верагоднае затрыманьне былога міністра гандлю Валянціна Чаканава. Паводле выданьня, якое спасылаецца на старшыню КДБ Валерыя Вакульчыка, «Чаканавым займаецца Сьледчы камітэт».

Валянцін Чаканаў адпрацаваў на пасадзе міністра гандлю з 2009 году. Ён адзіны міністар з ураду прэм'ера Ўладзімера Кабякова, які ня быў наноў прызначаны пасьля выбараў у кастрычніку. З пасады міністра гандлю Валянцін Чаканаў быў адпраўлены ў адстаўку 17 сьнежня.

Кіраўнік КДБ заявіў пра арышты былога намесніка міністра сельскай гаспадаркі Васіля Півавара і транспарту Яўгена Рагачова і бізнэсмэна Ўладзімера Япрынцава. Пра гэта паведамляе БелаПАН са спасылкай на старшыню КДБ Валерыя Вакульчыка.

Васіль Півавар і Яўген Рагачоў былі вызваленыя ад займаных пасадаў у адзін дзень, 4 сьнежня, з аднолькавай фармулёўкай: «у сувязі з учынкам, несумяшчальным са знаходжаньнем на дзяржаўнай службе».

Акрамя таго, Вакульчык пацьвердзіў факт затрыманьня намесьніка генэральнага дырэктара кампаніі «Трайпл» Уладзімера Япрынцава і паведаміў, што той абвінавачваецца ў махлярстве.

Інфармацыя пра затрыманьне Япрынцава зьявілася яшчэ ў жніўні, але да гэтага часу афіцыйнага пацьверджаньня гэтага факту не было.

**Алег Грузділовіч**

ПОСТСАВЕЦКАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ

# САЮЗЬНІКІ НЕ ПАДТРЫМАЛІ ВАЯЎНІЧУЮ ПАЗЫЦЫЮ РАСЕІ

**Галоўная інтрыга самітаў АДКБ і ЭАЭС у Маскве 21 сьнежня палягала ў тым, ці патрымаюць саюзьнікі ваяўнічую лінію Расеі на ўцягваньне ў канфлікты з суседзямі.**

На саміце АДКБ абмяркоўвалася супрацьстаяньне РФ з Турэччынай. У гэтым пытаньні склалася супярэчлівая і трохі дзіўная сытуацыя. З афіцыйных заяваў МЗС краін-чальцоў АДКБ, саюзьнікаў Расеі, вынікала, што тыя займаюць пазыцыю нэўтралітэту. А Лукашэнка, выступаючы ў Туркмэністане, загаварыў нават пра памылкі РФ у гэтым канфлікце.

І вось саміт АДКБ нібыта сапраўды падтрымаў РФ у яе канфлікце з Турэччынай. Пра гэта заявіў прэзыдэнт Арменіі, якая старшыню цяпер у арганізацыі, Серж Саргсян. Па выніках паседжаньня ён адзначыў: «Мы, як саюзьнікі Расеі, выказваем салідарнасьць і падтрымку пазыцыі Масквы па гэтым інцыдэнце».

Але тут ёсьць важныя нюансы. Інфармацыю пра такую пазыцыю на закрытай сустрэчы прэзыдэнтаў даў толькі Серж Саргсян. Вядома, што ў Арменіі даўняя гістарычная варажнеча з Турэччынай. Таму ягоная інтэрпрэтацыя можа быць не зусім аб'ектыўная. Астатнія прэзыдэнты на гэты конт прамаўчалі.

Па выніках саміту АДКБ была прынятая толькі заява «Аб супрацьдзеяньні міжнароднаму тэрарызму». У гэтым афіцыйным дакумэнце пра канфлікт Расеі з Турэччынай нічога не гаворыцца. Таму, відаць, падтрымка вельмі ўмоўная.

Ня менш знамянальным быў і саміт ЭАЭС. Справа ў тым, што з 1 студзеня 2016 пачне дзейнічаць пагадненьне аб асацыяцыі паміж Украінай і Эўрапейскім Саюзам. Адным з ягоных элемэнтаў зьяўляецца зона вольнага гандлю. 16 сьнежня прэзыдэнт РФ Уладзімір Пуцін падпісаў указ аб прыпыненьні дзеяньня дамовы аб зоне свабоднага гандлю СНД з Украінай з 1 студзеня 2016 году.

Сытуацыя, калі адзін з чальцоў мытнага саюзу ў аднабаковым парадку ўводзіць эксклюзіўны гандлёвы рэжым зь нейкай трэцяй дзяржавай, дзіўная і абсурдная. Гэтая абсурднасьць выявілася яшчэ год таму, калі Расея ўвяла эмбарга на імпарт харчаваньня з ЭЗ. Што прывяло на практыцы да вялікага аб'ёму рээкспарту забароненых тавараў праз Беларусь, пэрманэнтных прэтэнзій з гэтай нагоды Масквы да Менску. Гэтае рашэньне РФ апрыёры праграмавала канфлікт паміж чальцамі ЭАЭС. Таму што, калі ў адной краіны-чальца мытнага саюзу існуе іншы гандлёвы рэжым з трэцяй дзяржавай, то дэ-факта мытны саюз ня дзейнічае, ён разбураецца.

Але Расея на гэтым не спынілася. У лістападзе Масква ўвяла забарону на імпарт харчовых тавараў з Турэччыны. І вось цяпер выходзіць з рэжыму вольнага гандлю з Украінай. Відавочна, гэта больш палітычнае рашэньне, чым эканамічнае, працяг расейска-ўкраінскага канфлікту іншымі мэтадамі.

Саміт ЭАЭС не падтрымаў Расею ва ўкраінскім пытаньні. Фармальна прынялі рашэньне пачакаць паўгода, паглядзець («правесьці маніторынг») якія будуць наступствы пагадненьня аб асацыяцыі паміж Украінай і ЭЗ, ці сапраўды эўрапейскія тавары праз украінскую тэрыторыю будуць трапляць на рынкі краін ЭАЭС. І толькі пасьля гэтага прымаць нейкія захады.

Але аднабаковае рашэньне Расеі стварае глебу для новых беларуска-расейскіх супярэчнасьцяў. Можна чакаць, што будзе адбывацца рээкспарт украінскіх тавараў у Расею праз Беларусь.

І тут узьнікае больш глябальнае пытаньне. Ці магчымы эканамічны саюз паміж краінамі ЭАЭС, калі нават паўнавартасны Мытны саюз ня можа эфэктыўна працаваць, ён разбураецца на вачах. Мытны саюз у параўнаньні з эканамічным саюзам — ніжэйшы ўзровень інтэграцыі. Дык калі нават ён працуе з такімі хібамі, то пра што можна казаць.

**Валер Карбалевіч**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 29.12.2015 у 20.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.